Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНААРМЕЕЦ

БЮЛЕТЭНЬ ПАЛІТЫЧНАГА АДДЗЕЛУ 33-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ.

№ 4 Чацьвер 19 верасьня 1929 г. № 4

ДА ГЭТАГА ЧАСУ ПЕРАД НАМІ СТАЯЛІ МІЗЭРНЫЯ, ЖАЛКІЯ (З ПУНКТУ ПОГЛЯДУ СУСЬВЕТНАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ) ВОРАГІ.

ЗАРАЗ СУПРОЦЬ НАС ПАДНЯУСЯ ВОЛЯЙ КУЛЬТУРНАГА, ТЭХНІЧНА ПЕРШАКЛЯСНА АБСТАЛЯВАНАГА, АРГАНІЗАЦЫЙНА НАЛАДЖАНАГА СУСЬВЕТНАГА ІМПЭРЫЯЛІЗМУ. З ІМ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА. З ІМ ТРЭБА УМЕЦЬ ЗМАГАЦЦА.

ЛЕНІН.



Трэба перш за усе урэгулявапь харчаваньне чырвонаармейцау так, каб ніякіх затрымак і спазьненьняу не дапускаць. Умелай распарадлівасьцю гэта лёгка справіць.

Затым у галіне палітычнае работы зусім неабходна, каб у палітычнага кірауніка была папярэдняя намётка палітычных мерапрыемствау паходу. Трэба, каб чырвонаармейцам растлумачвалі зьменпую абстаноуку.

А то атрымліваецца вельмі часта, што баец ня ведае усяго ходу і дзеяньняу свайго узводу, роты і г. д., і усе перагрупоукі для яго адбываюцца у пацёмках.

Палітычны кіраунік павінен уцяміць, што ён не павінен замяняць і сэкратара і адкарга камсамолу. Ен павінен арганізоуваць іх работы.

Мы зьвяртаем увагу, што палітработа пакуль яшчэ не разгарнулася ва усёй шматграннасьці сваіх форм і мэтаду, а абмяжоуваецца чыткай і гутаркай.

Патрэбна больш рашуча узяць курс на актывізацыю ротнага актыву, чытачоу, кніганош (іх павінна быць па некалькі на роту); амаль ня чуваць зачыпальнікау.

Словам, галоунае упіраецца у неабходнасьць утварэньня баявога тэмпу палітработы. З-ч.

## ПЕРШЫЯ ДНІ

Часткі дывізіі манэуруюць ужо трэці дзень і паказалі сваю поуную баявую падрыхтаванасьць.

Ня гледзячы на напруджаньне абстаноукі чырвонаармейцы і начальніцкі склад у асноуным умела спрауляюцца з ускладзенымі задачамі.

Трэба толькі у працэсе далейшае працы зжыць некаторыя недахопы, праяуляемыя у паасобных частках.

## АПЭРАЦЫЙНАЯ ЗБОРКА

### К 18 ГАДЗ. 18—IX.

З сьвітаньнем 18—IX сутычка выведкі чырвоных і сініх у раёне Сланёўшчына.

Моцны выведны атрад чырвоных энэргічнымі дзеяньнямі каля 7 гадзін аўладаў Сланёўшчынай, адцясьніўшы слабую выведку сініх на хутары Лядэўскія.

Паміж 8 і 9 гадзінамі выведны атрад чырвоных, пры падтрыманьні разьвінутага галоўнага атраду захапіў выс. 77, 55, пасьпяхов рацаўсюджваючыся на хут. Сушчэўск.

Сінія, аказваючы слабое супраціўленьне на сваім левым крыле, на правым крыле ў раёне Ледзькаўскія хутары разьвінуўшы каля батальёну, адкінулі чырвоных у паўночным кірунку.

К 10 гадз. чырвоныя, увёўшы ў справу другі эшалон, аўладалі хут. Сушчэўскія, не спатыкаючы асаблівага супраціўленьня сініх. На левым крыле чырвоных становішча ўстойлівае.

Паміж 11—12 гадзінамі моцная стрэльбава-кулямётная і артылерыйская стральба з абодвух бакоў і выведка поля бою начальніцкім складам.

А 12-ай г. сінія ў выніку выведкі згрупавалі на сваім левым крыле моцную ўдарную групу і перайшлі ў энэргічнае контрнаступленьне, адкінулі чырвоных у паўночным кірунку і захапілі выс. 77, 55. выканаушы такім чынам пастауленую ім задачу.

Паміж 13 і 14 гадзін бой у раене выс. 77,55.

У гэты-ж час галоўныя сілы чырвоных згрупаваліся ў Яэвы і пераважаючымі сіламі нанесьлі пагражаючы удар у левае крыло сініх, у выніку чаго к 18 г. сінія адыйшлі ў раён Лудчыца. Настрой частак бадзеры.

# Бяры на мушку разьгільдзяеу і халатна
## АДНОСЯЧЫХСЯ ДА СВАІХ АБАВЯЗКАУ

### Чаго ня трэба забываць?

Ва умовах сучаснага бою, пры наяунасьці авіяцыі, паусяходных і хуткаходных броне-частак і матарызаванай артылерыі, супраціунік заужды можа апынуцца у значных сілах у такіх мясцох, у якіх у мінулыя войны яго нельга было меркаваць.

Авіацыя можа высадзіць дэсант у глыбокім тылу, за сотні вёрст ад фронту.

Браневыя часткі і самаходная артылерыя пры сучаснай шпаркасьці руху — 25-30 вёрст у гадзіну без дорог у кароткі тэрмін могуць апынуцца у тылу.

Пагэтаму цяпер разьведка павінна весьціся як мага далей уперад у бакі і у тыл.

Таксама павінна выстаулящца ахова для таго, каб аб выкрытым супраціуніку сваечасова уведаць

Да сувязі прад'яуляюцца запатрабаваньні бездакорнае работы ня толькі тэлефонам, але і сьветлавымі сродкамі, радыё і інш.

Асабліва неабходна атрыманьне у найкарацейшы тэрмін зьвестак аб зьяуленьні бранечасьцей і самаходнае артылерыі.

У барацьбе з паветраным ворагам, які нясе з сабою ня толькі бомбы і кулямёты, але і атрутныя матэрыі, патрабуецца самая дасканальная пастаноука:

Службы паветранага назіраньня, асьвятленьня і сувязі, і

— Супраць-паветранае абароны, якая падзяляецца на актыуную і пасыуную.

Г

### Вынікі аднаго дню

Гутарка з камандзірам нашае дывізіі тав. Герасімавым.

У занятках, якія адбыліся 17-га верасьня, неабходна адзначыць вялікую зацікауленасьць чырвонаармейцау, увагу і дасканалае выконваньне ус'х загадау начскладу, а таксама добрую падрыхтоуку у галіне маскіроукі

Прасоуваньне наперад крокам і бягом адпавядае нормам баявых статутау.

Побач з гэтымі посьпехамі ёсьць яшчэ і значны лік недахопау. З іх галоуныя: адсутнасьць самаакапваньня, няуменьне працаваць лапатаю.

Начальніцкі склад, асабліва малодшы, недастаткова рашуча кіруе сваімі часткамі. Неабходна адзначыць, як недахоп, недастатковую зразумеласьць тэрміну «агнявы рубеж», у разуменьні якога малодшы начсклад памыляецца, лічучы за яго спыненьне у часе перабежкі.

Неабходна ведаць, што адзін агнявы рубеж адстаіць ад другога ня менш, як на 200 мэтрау, у той час, як некаторыя камандзіры аддзяленьняу прасоуваньне наперад на 50-60 крокау лічаць захопам другога агнявога рубяжу.

Усе заняткі, на мой погляд, ёсьць добры крок у перад у галіне баявое падрыхтоукі дывізіі.

Л.

### ГАНЬБА ПАНЦЯЛЕЕВЫМ, ЯКІЯ СВАІМІ УЧЫНКАМІ ПЛЯМЯЦЬ ГОНАР БАЙЦА

У 98 палку ў 3-й роце чырвонаармейцы Панцялеевы, каб пазбавіцца ад удзелу ў манэўрах, наўмысьля сапсавалі свае ногі, зрабіўшы апалы. Яны цяперака ляжаць хворыя.

У 1-ай пульроце падкладалі пятакі пад пятку, матывіруючы гэта „схаваю грошы ў бацінку".

У 6-ай роце чырвонаармеец Вікроў садраў нагаць. Усе гэтыя факты гавораць аб тым. што сярод чырвонаармейцаў ёсьць злосныя сымулянты, якіх трэба будзе прыцягнуць да адказнасьці.

Сорамна чырвонаму байцу дэзэртырстваць з фронту зучобы — баявое, адказьнейшае падрыхтоўкі.

АКУЛАЎ.

Трэба дабіцца, каб сацыялістычнае спаборніцтва стала сапраўднай справай мас, не дапускаючы падмены ініцыятывы і шырокай самадзейнасьці гэтых мас бюракратычным кіраўніцтвам.

### На чорную дошку Дзямідавых

Выпадак, што трапіўся ў роце сувязі, абурыў усіх байцоў. Чырвонаармеец Дзямідаў адмовіўся выканаць загад камандзіра разьдзелу, ня гледзячы на паўтарэньне загада тры разы ўзапар. Праз гадзіну чутка аб гэтым абляцела ўсіх байцоў

На сходзё чырвонаармейцы заплямілі Дзямідава, як парушыцеля дысцыпліны. Байцы 3-х разьдзелаў сказалі: „Дзямідаў падрывае моц нашай роты, ганьбіць нашыя шэрагі; на чорную дошку гэткіх байцоў..

Выпадак з Дзямідавым ёсьць выпадак, які грае на руку кулака, гандляра і іншых ворагаў савецкай улады.. Патрабуем самага рашучага пакараньня тых, хто падрывае баяздольнасьць РСЧА.

Заяўляем, што пакладзем усі сілы на узмацненьне баяздольнасьці роты!

Так адказалі сувязістыя Дзямідаву і адкажуць усім, хто пасьмее парушаць парадак у Чырвонай арміі.

СУВЯЗІСТЫ.

Гаспадарнік і абознік! памятайце, што ад вашай працы залежыць падтрымаць сілы байцоў.

# У сацспаборніцтве больш практычнай працы, БОЛЬШ МАСАВАСЬЦІ, БОЛЬШ ПРАВЕРКІ

## Канфэрэнцыя па сацспаборніцтву

Палітаддзел вызначыў правесьці 21 верасьня па усіх частках чырвонаармейскія канфэрэнцыі пра сацыялістычнае спаборніцтва.

Рыхтуйцеся да гэтых канфэрэнцый. Уцягнеце ў сацыялістычнае спаборніцтва ўсіх да званьня чырвонаармейцаў.

Праверце, што зроблена практычнага па выкананьні дагавароў.

Вызначце лепшыя прыклады баявое вывучкі часьцей, націсьніце на тактычную падрыхтоўку.

Абярэце на канфэрэнцыі лепшых, прыкладных чырвонаармейцаў.

## Уступаем у спаборніцтва.

Чырвонаармейцы і кампалітсклад 4-ай батарэі 33-яга палка на сваім агульным сходзе пастанавілі прыняць да стопроцантнага выкананьня, высунутага камандваньнем і Палітадзелам дывізіі у сваёй адозве, якая была надрукавана у № 2 „Тэрармейца“.

Дагавары на правядзеньне баявога сацыялістычнага спаборніцтва паміж камандамі заключаны.

ДАНІЛЕНКА.

## Зрабіць агітпрапботу больш жвавай!

Практыка першых дзён работы агітпавозкі паказала, што яны ня умеюць прыстасавацца да манэўраных абставін.

Работа ідзе млява, аднастайна, часам ня цікавымі чырвонаармейцу формамі: гутарка ды чытаньне, чытаньне ды гутарка.

Супраць гэткай аднастайнасьці вядзецца змаганьне даўно. Цяжка, але трэба даць больш разнастайнасьці ды жывое работы.

Прапануем:

1. Знайсьці і скарыстаць ротны актыў.
2. За чытаньнем газэт ды гутаркамі не забывайце пра разумную забаву.
3. Праводзьце кароценькія мітынгі пра бягучыя пытаньні.
4. Скарыстоўвайце прадстаўнікоў акругкому, пракуратуры ды мясцовыя сілы.
5. Праводзьце работу ва усялякіх абставінах непарыуна,
6. Пастаўце работу пад агонь самакрытыкі чырвонаармейцаў.

## Затрымалі «Тэрармейца»

(97 полк)

Рота сувязі своечасова даставіла дывізійны бюлетэнь у 97 полк. Але же у палку з 7 гадзін раніцы 200 экз. «Тэрармейца»—ляжалі да канца дня у аутамабілі.

Прэч такія адносіны да голасу чырвонаармейскай грамадзкасьці — воргану Палітаддзелу!

## Прыкладная работа

(Гутарка з начснабам т Грыньковым)

Практычная работа ў хлебапекарні праводзілася 2-3 гады і поўнасьцю сябе апраўдала.

Чырвонармейцы - хлебапёкі прыклалі максымум энэргіі і пагрузка прайшла борзда, за 1 гадзіну 15 хв., улічваючы сюды вагон цэглы.

Сама выгрузка і перакідка на месца стаянкі прайшлі упаўне здавальняюча.

Пасьля перакідкі ўсяе маемасьці — мукі, дроў і інш. прылад за 6-ць кіл., устанавілі хлебапекарню і лягерныя палаткі усяго на працягу 11-ці гадзін. А праз 21 гадзіну адно з аддзяленьняў хлебапекарні дало выпечку хлеба.

Наогул, хлебапекарня да «бою» гатова.

Якасьць работы хлебапёкаў, іх бадзёрнасьць—залог добрай якасьці хлеба —НЬ

## УВАГА ХАРЧАВАНЬНЮ БАЙЦОЎ!

### САПЕРЫ, ПАДЦЯГНІЦЕСЯ

са справаю харчаваньня чырвонаармейцаў. 18/IX раніцаю ў вас не хапіла ўсім гарбаты, а ў дзень абеду на 17 чалапек.

Улічвайце добра расход людзей.

НЕ САПЕР.

### БЯЗ СЬНЕДАНЬНЯ

вышаў конны разьдзел 99 палку ў выведку, дзякуючы гаспадарчым недахопам.

Трэба карміць ня толькі смачна, але і ў свой час. ВЫВЕДЧЫК.

### БРУДНЫ КУХАР

т. Хозаў у 99 палку. У яго і фартук і рукі брудныя.

Старэйшы кухар Хаценак таксама мала адстае ад яго. Чаму-б вам, таварышы, не памыць рукі ды не апрануцца ў чыстую вопратку? Яны ж у вас ёсьць. К.

## НА МАНЭУРАХ



ПРЫВАЛ

## У сьвязістау на паходзе

Роту сьвязістаў схаваў бярозавы лясок.

— Стой!—пранеслася ня моцным рэхам Байцы спыніліся на вялікі прывал.

Пытаюся: чаму ня зьнімаеце баціпак?

А ці варта? Мае ногі не баляць яшчэ!

І так уся рота... Ляжаць бітую гадзіну абутыя. А трэ' было баціпкі зьняць.

Чытачы і кніганошы хаця і былі праінструктаваны на гэты конт, але пасьпяховае дзейнасьці з іх боку не наглядалася. Напрыклад, партарганізатар-чытач і кніганоша 3 разьдзелу ляжалі і нічога не рабілі.

Неабходна актыў ня толькі інструктаваць, але правяраць і дапамагаць яму.

Лепей прайшла масавая работа.

Рота сабралася абгаварыць пункты сацыялістычнага спаборніцтва, якія былі абвешчаны ў „Тэрармейцы".

Байцы сказалі, што яны тут не падкачаюць!

С.

## Сапер на вадзе

Неабходнасьць трэніроукі у работах на пераправах чырвонаармейцы усьвядомілі.

Ня толькі працоуныя дні, але і дні адпачынку іншы раз скарыстоуваюцца для узьняцьця баявое вывучкі.

Па ініцыятыве партячэйкі надоечы быу утвораны нядзельнік, у якім прыняу удзел амаль увесь склад роты.

Утваралася наводка мосту праз р. Дняпро. Пад дажджом выраслі пралёты мосту, перарыушыя у 1 ч, 30 г. Дняпро.

Сапёры паказалі, што свае функцыі пры пераправе яны выканаюць.

Зразумела, тут хуткасьці і маскіроуцы належыць першае месца, што іншы раз ня зусім захоуваецца.

Пераправа патрабуе поунай і поунай арганізацыі гэтае справы.

Але у самы пэрыяд пераправы бываюць перабоі у прыбыцьці эшалонау да месца пасадкі.

Гэты важны пункт на будучае трэба улічыць.

ЦІШКОУ.

## Весткі з радыестанцыі

Галоуная Управа РСЧА паведамляе, што дабраахвотнікі ў Дальне-Усходнюю армію ня прымаюцца. Усе заявы дабраахвотнікау адсылаюцца па месцу іх жыхарства, дзе будуць ТСАвіяхімаускімі арганізацыямі узяты на вучот.

У Маскоускую артылерыйскую школу прыбылі 40 батракоу, скончыушых падрыхтоучы курс нармальнае школы.

ПУР даў часткам Чырвонае арміі дырэктыву аб узмацнёнай падрыхтоўцы да ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод прызыўнікоў 1907 г.

## Не захапляйцеся

У вёсках на вакольных сельсаветаў маюцца выпадкі захварэньня грамадзян крывавым паносам і іншымі жалудачна-кішэчнымі хваробамі. Гэта павінна служыць перасьцярогаю байцом нашае дывізіі—

У паходнай абстаноўцы так легка заразіцца і захварэць. Каб захаваць свой жалудак здаровым, трэ' паменей есьці сырых фруктаў і гародніны, зусім ня есьці іх на галодны жалудак, устрымлівацца ад піцьця сырое вады і малака, зьберагаць у чыстаце выдаваемыя на рукі прадукты.

Пачасьцей мыць рукі, асабліва перад ежаю.

Небясьпека растроіць свае жалудкі асабліва вялікая таму, што гасьцінныя гаспадары час ад часу падносяць чырвонаармейцам шмат яблык.

Мы ўдзячны гасьцінным гаспадаром, але адначасна павінны напомніць чырвонаармейцам: не захапляйцеся яблычкамі, памятайце правілы аховы здароўя на паходзе, гэтым вы захаваеце сваю баяздольнасьць.

МОХАУ-КАВАЛЕУ.

## РАШЭНЬНЕ

малюнку самалета, зьмешчанага у № 3 «Тэрармейца». 1) Армія. 2) Іпрыт. 3) Рым.

Адказны рэдактар — А. САМАХВАЛАУ

Акрліт № 418-г